# У Троіца - Сергіевай лаўры

Па шырокай асфальтавай шашы наш турыстычны аўтобус імчыць на паўночны-ўсход ад Масквы. Дзень сёння выпаў вельмі прыгожы, сонечны. І хоць падмаскоўнае сонца вельмі скупое ў студзені, а ўсё ж яго праменні адбіваючыся ў крыштальных сняжынках, якія тоўстай пярынай заслалі неабсяжны далягляд калгасных палёў, што побач шашы, да болю колюць вочы, і перашкаджаюць разглядаць нам усё новае, нябачанае, а так цікавае.

Сёння ў плане нашай экскурсіі — наведаць Троіца - Сергіеву лаўру. Чым далей ад Масквы, краявід усё больш змяняецца. Стаецца ўзгорыстым, больш маляўнічым. Апошні паварот шашы і раптам з-за ўзгорка, страляючы ўверх манументальнымі капулястымі вежамі, паказаліся нам славутыя Троіца - Сергіевы святыні.

Загорск — вельмі прыгожы горад. І распалажаны ён у маляўнічай мясцовасці. Шырокія, чыста ўтрыманыя вуліцы. Высокія памаляваныя на белы колер дамы. Шмат дрэў. А пасярэдзіне на ўзгорку, агароджаны тоўстым сярэдневяковым мурам, паблісквоючы ў праменнях сонца пазалочанымі капуламі сваіх шматлікіх сабораў, красуецца Троіца - Сергіева лаўра.

Як падае гісторыя, Троіца - Сергіеў манастыр быў заснаваны ў першай палове XIV стагоддзя, баярынам Сергіем Радонежскім, які пасля быў высвенчаны ў ігумены гэтага ж манастыра.

Праехаўшы шырокімі варотамі аўтобус затрымаўся насупраць цудоўнага Успенскага сабора. Нажаль ён у зімовы час закрыты і нам не ўдалося паглядзець каштоўных скарбаў, якія ў ім знаходзяцца.

На вуліцах манастыра заўсёды шматлюдна і гаманліва. Тут можна сустрэць наведвальнікаў і турыстаў з усіх краін свету.

Ну, што ж, манастыр з'яўляецца адным з найбольшых асяродкаў праваслаўнай рэлігіі ў свеце. Тут змяшчаюцца духоўная Акадэмія, духоўная Семінарыя і мужчынскі манастыр. У лаўры пастаянна жыве патрыярх усяе Русі — Алексій. Тут таксама змяшчаецца Дзяржаўны гістарычна - мастацкі музей - запаведнік, са сваімі адзінымі ў свеце скарбамі. А гэта ж усё вельмі цікавіць турыстаў не толькі Савецкага Саюза, але і іншых краін свету. Манахі сёння у прыўзнятым настроі. Манастыр святкуе другі дзень Каляд. У некаторых саборах праз увесь дзень правіцца багаслужэнне. Мы зайшлі ў царкву Пятніцы - Параскевы. Тут якраз правілася абедня. У царкве каля 60 асоб веруючых. Гэта старыя жанчыны і мужчыны. Большасць з іх відаць з вёскі. З моладзі няма ні кога ў царкве. На іншаземцаў (а іх адразу тут пазнаюць, мабыць па іншай вопратцы) ніхто не звяртае ніякай увагі. Відавочна прывыклі ўжо да іх людзі. Пад гэтай царквой, як гаворыць лягенда, пахаваны цар Барыс Гадуноў.

Манахі тут вельмі ветлівыя. Яны ахвотна паказваюць «святыя» месцы, расказваюць іх гісторыю.

Адзін з манахаў прапанаваў нам наведаць славутую «Надкалодзежную часоўню», дзе за некалькі капеек можна напіцца «святой вады», якая, нібыта можа аздаравіць хворага і дадаць яму сіл. Пасярэдзіне часоўні фантанам б'е здраявая вада. Да калодзежа ланцужкамі прымацаваны мядзяныя кубкі. Некалькі старэнькіх жанчын — паломніц, з глыбокай павагай п'юць «святую ваду», моляцца. З боку, за столікам сядзіць стары барадаты манах. Ён прымае прынесеныя веруючымі дары. Мая сяброўка, вянгерка — Коці (разам з намі у Загорск прыехала група вянгерскіх турыстаў) таксама падыйшла да фантана і напілася вады.

— Ну, як, — пытаю — добра?

— Хороша, хороша. — кажа задаволеная Коці, гладзячы сабе па жываце рукамі. Мы палажылі на столік манаху грошы, ён благаславіў нас і мы вышлі.

Кожны сабор — гэта памятнік сярэдневяковай архітактуры. Вось мы падыйшлі да Каменнага палаца — «Чартогі». Ён з'яўляецца выдатным помнікам народнай архітактуры канца XVII-га стагоддзя. У гэтым палацы некалі прымалі цароў, якія часта наведвалі Троіца - Сергіеву лаўру.

Пасля мы наведалі Дзяржаўны гістарычна - мастацкі музей - запаведнік. Тут сабрана калекцыя драгацэнных, багата высаджаных рубінамі і неацэннымі каменнямі іконаў, выкананых мастакамі сусветнай славы. З асаблівай цікавасцю мы разглядалі падарункі, ахвяраваныя ў манастыр князямі Адаеўскімі, Трубецкімі, царом Барысам Гадуновым і іншымі. Вось мы падыйшлі да так званага «Двойнога пакрова», асобы Сергія і Нікона Радонежскіх. Ён вытканы з чыстага золата па прыказанню цара Івана Грознага ў XVI стагоддзі і падараваны яго сынам — князем Фёдарам Іванавічам, Троіца-Сергіеваму манастыру.

Вялікае ўражанне адчуваеш, калі глядзіш на аклад з іконы «Троіца» напісанай Андрэем Рублёвым. Аклад выкананы з залатой рамкі, у якую ўстаўлены 34 кіятчатавыя драбніцы. На ім тры залатыя вянкі, з ізумрудамі, рубінамі і сапфірамі. Цудоўнае відовішча дапаўняе сярэбраная пазалочаная рыза ў стылю барока. На гэты скарб можна глядзець гадзінамі не адрываючы вачэй і ўсё знаходзіць у ім нешта новае, цікавейшае.

Каб агледзець усе цікаўнасці ў Троіца - Сергіевай лаўры спатрэбілася б шмат часу. Нажаль нам ужо трэба ад'язджаць. Нейк развітальна гучэлі манастырскія званы. У саборах Троіца - Сергіевай лаўры распачыналася вячэрня.

ВАСІЛЬ БАРШЧЭЎСКІ



Від на Троіца - Сергіеву лаўру.

Да саракагоддзя беларускай дзяржаўнасці

С. МАРГУНСКІ

## Цэнтральны выканаўчы камітэт Беларусі

Першы Усебеларускі з'езд Саветаў быў з'ездам устаноўчым, ён выбраў вышэйшыя заканадаўчыя і распарадчыя органы ўлады рэспублікі. З'езд выбраў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускай ССР у складзе 50 чалавек. Старшынёй ЦВК БССР быў выбран А. Ф. Мяснікоў. З'езд зацвердзіў 15 народных камісараў рэспублікі, якія ўзначалілі асобныя народныя камісарыяты.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларусі выбраў Малы і Вялікі Прэзідыумы для агульнага кіравання справамі рэспублікі і для кіравання асобнымі галінамі кіраўніцтва. Малы Прэзідыум ажыццяўляў агульнае кіраванне рэспублікай, а Вялікі — праз народных камісараў галінамі кіраўніцтва. У склад Малога Прэзідыума ўваходзілі старшыня ЦВК (ён жа народны камісар па ваенных справах), народны камісар замежных спраў, народны камісар унутраных спраў і сакратар ЦВК.

У склад Вялікага Прэзідыума ЦВК БССР уваходзіла 15 народных камісараў рэспублікі. Ён з'яўляўся выканаўчым органам улады, ажыццяўляў агульнае кіраўніцтва справамі рэспублікі, выдаваў дэкрэты, распараджэнні, інструкцыі, прымаў меры, неабходныя для правільнага і хуткага працавання дзяржаўнага жыцця ў рэспубліцы. Дакладней, ён выконваў усе функцыі Савета Народных Камісараў у межах, устаноўленых для гэтага органа Канстытуцыяй РСФСР 1918 года.

Старшынёй Малога і Вялікага Прэзідыумаў ЦВК БССР была адна і тая ж асоба. Гэта дыктавалася перш за ўсё неспрыяльна склаўшыміся ў пачатку 1919 года міжнароднымі і ўнутранымі абставінамі, а таксама адкрытым праяўленнем нацыяналістычных імкненняў з боку беларускіх нацыяналістаў. Усё гэта патрабавала канцэнтрацыі кіраўніцтва ў адных руках, што знайшло адлюстраванне ў выбранні першага старшыні ЦВК БССР А. Ф. Мяснікова старшынёй Малога і Вялікага Прэзідыумаў ЦВК Беларусі.

ЯНКА БРЫЛЬ

## Сэрца камуніста

10)

Колькі іх выйшла на прасторы вольнага, мірнага жыцця з адной толькі паўднёвай часткі нашай партызанскай пушчы! Наша цудоўная змена, за шчасце якой і мы аддалі сваю маладосць. Каго з хлопцаў ні ўспомніш, да ўсякага падыходзяць словы: добры работнік. І паўтараць гэтыя словы таксама прыемна, як прыемна было гаварыць іх у дні вайны.

Педагогамі сталі твой сын Шура і сын дзядзькі Андрэя, нашага праваднікa ў блакаду, Валодзя Калеснік; афіцэрам з вышэйшай асветай — Жэня Крэмко; настаўнікамі — Косця Балабановіч і Толя Цабкала; партыйнымі работнікамі — браты Іван і Саша Мацко... Гэта яны, тады яшчэ юнакі, былі аднымі з першых арганізатараў нашага «Камсамольскага» атрада. На адказнай савецкай рабоце працуюць Барыс Чубрык і Мікола Макей — былыя палітвязні, прадаўжальнікі нашай з табою справы ў давераснёўскім падполлі. у дні вайны — баявыя таварышы - партызаны. У тыя дні прыйшлі сюды і засталіся з намі таварышы з розных куткоў неабсяжнай Савецкай радзімы. Старшынямі калгасаў працуюць у Наднямонні аграчом Васілій Багамазаў, рускі хлопец з-пад Невеля, былы палітрук «Камсамольцаў»; кубанскі украінец Дзенісенка, калісьці — «Міцька», праслаўлены камандзір «нёманскіх казакаў». Лепшую ў Любчанскай МТС трактарную брыгаду ўзначальвае беларускі хлопец з Гомельшчыны Іван Канода, выдатны кулямётчык, з якім я разам прыйшоў у пушчу з Вялікай зямлі...

Многа іх, дружа Валодзя, і ўсе яны — добрыя, залатыя хлопцы.

Памятаеш той радасны час — гарачае лета сорак чацвёртага года, калі мы, ачысціўшы родныя мясціны ад фашысцкай погані, выйшлі на мірную працу. Яшчэ грымела вайна, яшчэ быў не ўзяты Берлін, а нам — па загаду партыі — давялося думаць пра хлеб, пра хаты для людзей, якія з лясных зямлянак прыйшлі на пажарышчы. Ты падаўся ў Баранавічы разам з нашым «Платонам». А я... Так, сапраўды нечаканым і трывожным было для мяне прызначэнне старшынёй Мірскага райсавета — радавала давер'е партыі, трывожна было ад думкі, ці апраўдаю яго... А ўсё ж спраўляўся. Дапамагалі многа таварышы. І я, як ты, вучыўся ў народа.

...Гэта — ужо пройдзены этап.

Павел Арсеньевіч добра спраўляўся з заданнямі партыі і на пасадзе старшыні райсавета, і першага сакратара Мірскага райкома партыі, якім ён быў выбраны ў канцы сорак дзевятага года. Аб гэтым сведчыць і тая павага, якой ён і далей карыстаўся ў сваіх землякоў і ордэн Леніна, якім ён быў узнагароджаны да трыццацігоддзя БССР.

Многа працы было і пасля вызвалення. Ледзь не палавіна насельніцтва раёна засталася пасля акупацыі без даху над галавой, без хлеба і жывёлы. Многа зямлі ўдзірванела за гады вайны. Запушчаны былі дарогі, разбураны масты, спалены школы, ператворан у руіны старадаўні гарадок Мір з маляўнічым замкам на ўскраіне. Хлеб быў патрэбен фронту. Палям не хапала рабочых, мужчынскіх рук. У канцы сорак шостага года арганізаваўся першы пасляваенны калгас «Перамога», які ўзначаліў дэмабілізаваўшыся з радоў Савецкай Арміі, удзельнік давераснёўскай падпольнай барацьбы Мікалай Куневіч. А ў пяцідзесятым годзе Мірскі раён, першы ў Баранавіцкай вобласці, завяршыў калектывізацыю. Тады ж калгасы былі ўзбуйнены і пачалі настойліва багацець.

Асабліва радавала Паўла Арсеньевіча будаўніцтва: новыя фермы, дамы калгаснікаў, школы і клубы, некаторыя — упершыню ў гэтых мясцінах — з саману. На мірскай зямлі ёсць выдатная гліна. На рыначнай плошчы райцэнтра спрадвеку чуецца ганчарскі перазвон па «вечных» гаршках і паліваных місах; здаўна вясковыя саматужнікі займаліся вырабам цэглы — у асноўным на печы і зрэдку на коміны. Творчая думка сакратара неспакойна імкнулася да большага — справе з будматэрыялам трэба даць, нарэшце, належны размах, тым больш, што лес пасля вайны парадзеў небывала. У 1951 годзе ў калгасе «Перамога» была пабудавана першая ў СССР кальцавая печ без скляпення, па праекту маскоўскага інжынера Халоднага. На дым з гэтага коміна пайшлі калгасныя экскурсіі, нават з далёкіх раёнаў вобласці. Спакусіўшыся лічбай: паўтара мільёна цэглы за сезон, у наступным годзе яшчэ тры калгасы раёна пабудавалі такія заводы.

На ўзгорках і ў далінах працавітай і мужнай у дні вайны Міршчыны Паўлу хацелася бачыць мураваныя вёскі, поўны дастатак у кожнай сям'і. Для гэтага ён жыў, аб гэтым думаў, упарта шукаў і вучыўся, забываючыся на сваё здароўе.

Улетку 1952 года яго абралі сакратаром Любчанскага райкома партыі.

А вось цяпер канчаецца і гэты, яшчэ адзін жыццёвы этап. Наперадзе — зноў новае: новая праца, за якую ён гатоў узяцца з той самай настойлівасцю і хваляваннем, новыя людзі, да якіх ён таксама прыйдзе з адкрытай душою.

...Аб гэтым думаў ён і на трыбуне перад помнікам, і позняй ноччу — дома.

* * *

Дарагі Павел Арсеньевіч!

Пасля доўгіх ваганняў і толькі ў імя нашай

(Працяг на стар. 6)

# Хадзі, суседзе, на сход...

Кажуць, людзі ў Крывой (Бельскі павет) не любяць хадзіць на агульныя сходы.

Дапраўды, ужо каля сямі гадзін вечара, пара пачынаць нам сход, а тут у халодным класе сядзіць ўсяго некалькі пажылых гаспадароў. Энергічны дзядзька хухнуўшы ў змерзлыя рукі, нецярпліва прагаварыў да нас:

— То скажэце, што маеце сказаць, бо ўжэ больш людзей ні прыдзе... — і бліжэй прысунуўся да нас.

Амаль тут жа за акном пачуўся чыйсьці малады голас:

— Хадзі, суседзе, на сход... Сяргееў сын казаў, што з Бельска, з беларускага таварыства прыехалі і... — далей я не разабраў слоў бо, як бы недзе за вуглом, пачулася песня: «Ехаў казак з Украіны, згубіў жонку ў каляіні...»

Энергічны дзядзька, які «падганяў» нас, сам здзіўлена загледзеўся на дзверы, праз якія раптам пачаў «валіць» народ — дарослыя і моладзь. Дзяўчаты сарамліва прытаіліся ля вялікай печы.

Старшыня Бельскага Аддзела Беларускага таварыства сябра Кастусь Майсеня не чакае... Невялікія сенцы таксама ўжо не змяшчаюць зацікаўленых людзей...

Хто ведае, ці не ўпершыню Кастусь Майсеня, расказваў ім тут аб гісторыі беларускага народа, аб гісторыі беларусаў на Беласточчыне.

Хтосьці пакаўзнуўся на парозе і нарабіў ломату. «Запсыкалі» нядойду ўмомант...

А, калі таварыш Майсеня пачаў расказваць аб Беларускім таварыстве, аб яго дзейнасці на Бельшчыне, нехта ў сенцах не вытрымаў: — Галасней просім гаварыць!

Простыя сялянскія позіркі выяўлялі даўно не адчуванае вялікае задавальненне тым, што да іх выступаюць на роднай мове. І, калі пасля выступлення, юнак у мундзіры міліцыянера пачаў задаваць пытанне ломанай польска - беларускай мовай, яму крыкнулі яго сябры: — Гавары, Іван, па-свойму, не ўстыдайся!

Зацікавіўся народ беларускай песняй, беларускім прадстаўленнем — «камедыйкай». Зрэшты, аб гэтым не раз чыталі у «Ніве». Але гэта было ў іншых вёсках... сюды, да іх, ніхто не прыязджаў з такімі прапановамі. — Добра было б, каб да нас калі беларускі хор прыехаў, — хтосьці сказаў да сябры Майсені.

Дзядуля ў кажусе, які ўвесь час пільна слухаў прыставіўшы да вуха далонь, іранічна заўважыў: — Эгэ, на чужы каравай рота не раззявай, але свой май...

Усе засмяяліся.

У той вечар у рады Беларускага таварыства адразу ўступіла 28 асоб. Утворана гурток. Калі выбіралі праўленне гуртка, вусаты дзядзька заявіў: — Выбірайце маладых! Мы, старыя, ўжо адпрацавалі свой век. Хопіць, — і штурхнуў убок хлопца. — Чаго ты, Валодзік, носам круціш і чырванееш, — давай, ідзі ў хор, нябось, чулі, як спяваеш...

Святліцы ў Крывой пакуль няма. Мае быць. Але цяпер пэўна ж хутчэй стане, бо школа малая, не заўсёды, калі захочаш, выступіш...

(ся)

# За многа ў нас двухгоднікаў

У кожнай школе ёсць вучні, якія ходзяць па два гады ў адзін клас. У Гайнаўскім павеце, у мінулым навучальным годзе, не пераведзена ў наступныя класы 962 вучні, а ў Бельскім павеце 1.219. Значыцца прыкладна 13 прац. усіх вучняў — моцна адсталыя. Працэнт гэты значна большы ў паасобных класах. Асабліва дрэнна справа маецца з пятымі класамі. У Бельскім павеце на 1.210 вучняў у пятым класе не перайшло ў шосты 203 дзяцей, а ў Гайнаўскім павеце на 927 вучняў ёсць 206 двухгоднікаў. Гэта больш, як 22 працэнты.

У чым прычына, што такая колькасць дзяцей не пераходзіць у наступны клас?

Безумоўна, прычыны бываюць розныя. Вельмі часта бацькі прымушаюць школьніка многа працаваць на гаспадарцы, памагаць у хаце і вучань вельмі многа прапускае ўрокаў і не можа справіцца з тэмпам навучання. Напрыклад: дзеці пасуць кароў, восенню капаюць бульбу, няньчаць меншых ад сябе дзяцей, і г. д. Такія дзеці большую частку навучальнага года не прысутнічаюць на ўроках. Настаўнікі не могуць выставіць ім адзнакі. У Гайнаўскім павеце такіх «некваліфікаваных» вучняў налічваецца 195, а ў Бельскім 244. Значыцца бацькі, якія не клапоцяцца аб адукацыі свайго дзіцяці прыносяць вельмі многа дрэннага.

Бывае і так, што настаўнікі прыдаюць замала ўвагі гэтай справе. Некаторыя школы амаль што не маюць сувязі з бацькамі і не праяўляюць заклапочанасці, каб дапамагчы адстаючаму вучню, каб падняць у ім веру ў свае сілы, каб прабудзіць жаданне ў ім да вучобы. Гэтыя-ж настаўнікі забываюць аб тым, што адстаючы, не паспяваючы вучань — гэта не проста вучань з тымі, або іншымі недахопамі ў ведах. Яны забываюць аб тым, што адстаючы вучань перастае верыць у свае сілы, яму здаецца, што не зможа пераадолець свае цяжкасці, адрываецца ад калектыву, ад школы. Такому адстаючаму вучню, калі ў час не дапамагчы, не падтрымаць яго на духу, — дык ён, так сказаць, падае духам і, як правіла, не пераходзіць у наступны клас.

Вось таму велізарную ролю ў дасягненні поспехаў вучнямі адыгрывае чулы індывідуальны падыход да кожнага вучня. Калі настаўнік умее выпрацаваць у вучня веру ў свае сілы, калі ўмее прабудзіць волю да перамогі над цяжкасцямі, значыць ён валодае сапраўдным майстэрствам педагагічнай справы, значыць валодае важнейшым ключом да высокай паспяховасці. А ў нас ёсць такія настаўнікі. Вось, напрыклад, у школе ў Гацьках у мінулым годзе на 70 вучняў толькі 3 не перайшлі ў наступны клас. У гэтай школе заўсёды вельмі мала вучняў адстаючых, штогод вельмі мала двухгоднікаў. І гэта зусім зразумела і заканамерна, таму што нішто мацней ні можа «прыкаваць» дзіцяці да школы чым прабуджаная любоў да ведаў, радасць перамогі над цяжкасцямі навучання і радаснае пачуццё свайго духовага ўзросту.

М. ХМЯЛЕЎСКІ

# Не хапае кваліфікаванай сілы

Нягледзячы на тое, што ў нашай краіне адкрываецца штораз больш школ рознага характару, аднак заўсёды адчуваецца брак спецыялістаў у той ці іншай прафесіі. Гэты брак вельмі адчуваецца ў прафесіі настаўнікаў. У Беластоцкім ваяводстве на 419 настаўнікаў аж 49 не маюць педагагічнага атэстата сталасці.

А як прадстаўляецца справа з настаўнікамі ў школах з беларускай мовай навучання? Яшчэ горш. Вядома, што на 115 настаўнікаў 27 з'яўляюцца некваліфікаванымі. Гэты недахоп пераважна адчуваецца ў Гайнаўскім павеце. Ды і ў іншых паветах справа не надта вясёлая. Трэба было б гэты недахоп як найхутчэй заспакоіць. Бо немагчыма раўняць майстра педагагічнай працы з некваліфікаванай сілай, якая часта можа калечыць дзяцей. (яб)

Песенны беларускі фальклор Беласточчыны

## Прыпеўкі

Сякі-такі целяпень
Якраз у бацьку ўдаўся:
Цераз плот ў агарод
У крапіву схаваўся!

А як выйшаў з крапівы,
То ўзяўся пад бокі:
Гляньце бабы, гляньце дзеўкі —
Які я высокі!

Ішла баба з дубняком —
Зачапілась гапліком.
Баба — крык! Баба — брык!
Адчапіся ты гаплік!

Запісаў МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК у вёсцы Дубічы - Царкоўныя, Гайнаўскі павет.

## Родныя краявіды



Вечаровы вадапой. Ля калодзежа Іван Чаховік з вёскі Кнышэвічы на Сакольшчыне.

Фота — С. Яновіч

На наступны дзень Семяненка вярнуўся дадому з прыемнай навінай. Ёсць добрая праца, праўда часовая, але і гэта добра, лепш, чым нічога. Акурат патрабуецца зваршчык на элеватары. Заўтра з раніцы Бабраўнічы павінен прыйсці ў кантору з дакументамі.

Прайшоў тыдзень. Бабраўнічы працаваў на будове, а вечарамі сябры выпівалі, гаварылі аб усім патроху, і іх размовы нават і без віна станавіліся ўсё больш адкрытымі.

Бабраўнічы даведаўся, што Семяненка ў час вайны заставаўся на акупіраванай тэрыторыі.

— Не пашанцавала табе, Іван Фёдаравіч. Такім не вельмі то давяраюць! — пакачаў галавою Бабраўнічы. — А што ты рабіў пры немцах?

— Ды ўсяк было, — ухіляючыся, адказаў Іван Фёдаравіч. — Была аднойчы ў нас тут аблава. Мяне схапілі, трымалі ў падвале, а потым прымусілі працаваць у гаспадарчай часці войск СС. З гэтай часцю выехаў у Літву. Скончылася вайна — зноў вярнуўся ў Баранавічы.

— Ну, а як жа цяпер? Прыціскаюць?

Семяненка ўхіліўся ад адказу, толькі хутка перакуліў чарку і з хрустам працягваў жаваць халодныя салёныя грыбы.

Прайшло яшчэ некалькі дзён. Бабраўнічы асцярожна распытваў Семяненка аб яго жыцці і даведаўся, што ў бухгалтара ёсць свае крыўды на мясцовую ўладу. Неяк раз, калі Іван Фёдаравіч вышаў у склеп за грыбамі, Бабраўнічы выняў з кішэні яго пінжака пашпарт, ваенны білет, уважліва агледзеў іх, а потым зноў паклаў дакументы на месца.

У тую ноч абодва доўга не маглі заснуць. Бабраўнічы многа курыў, уздыхаў. Потым сеў на ложку і чыркнуў запалкай.

Мігаючы свет асвятліў гадзіннік на сцяне, цёмныя плямы здымкаў, веерам расклееных над старым камодам, перакінуўся ў кут, дзе стаяў ложак Семяненкі. Бухгалтар ляжаў на баку і, прыжмурыўшы сонныя вочы, глядзеў, маргаючы, на запалку. Апаліўшы пальцы, запалка згасла. Бабраўнічы чыркнуў другую.

— Спі, Міхаіл Ахімавіч, заўтра рана ўставаць, а мне штосьці нездаровіцца. Піць многа шкодна, па сабе адчуваю. Душыць нешта ў грудзях. Як быццам бы камень цяжкі...

Бабраўнічы ўважліва выслухаў скаргу бухгалтара, закурыў і сказаў ціха:

— Цябе камень мучыць, а мяне думка адна. Нядаўна, яшчэ ў Маскве, сустрэў я старога знаёмага. Вось ён расказаў мне, як жыць можна! Свой дом, халадзільнік электрычны, машына і тавару рознага ў магазінах колькі хочаш...

— Дзе ж гэта жыццё такое салодкае?

— Нябось не ў Баранавічах... — Бабраўнічы няпэўна махнуў галавой. — Ды й не ў Маскве. Ёсць месцы лепшыя нашага...

— Э, брат, добра там, дзе нас няма. Так вось... — Бухгалтар перавярнуўся на другі бок і нацягнуў на галаву коўдру.

— Яно то так. Толькі я ўсё гэта, між іншым, сваімі вачыма бачыў.

— Сам бачыў? — здзівіўся Семяненка.

— Прышлося вось...

Семяненка рэзка павярнуўся да суседа, прыпадняўся.

З-за воблакаў выкаціўся месяц, у пакоі стала ненатуральна відна і ціха.

— Чаго спужаўся, Іван Фёдаравіч? Маёй шчырасці? Бачу, ты чалавек свой, таму і гавару табе аб гэтым. Так, у іншых краінах зусім іншае жыццё...

— Цішэй, балван! — зашыпеў на яго бухгалтар. — Табе адкуль гэта вядома? Мелеш языком невядома што...

— Ведаю, што гавару. Быў я нядаўна ў Заходняй Германіі. Сустракаўся з людзьмі, якія змагаюцца за лепшае жыццё беларускага народа!

Семяненка аслупянела глядзеў на свайго пастаяльца, а Бабраўнічы, не даючы апамятацца бухгалтару, працягваў рашуча:

— Між іншым, гэтыя людзі змогуць аддзякаваць вам, бухгалтар Семяненка, за тое, што вы ўзялі пад свой дах мяне, прыбыўшага па іх спецыяльнаму заданню... Яны ж ужо ведаюць, што вы мяне прынялі! Ім аб гэтым паведамілі на другі ж дзень, і цяпер вы на строгім уліку!

Семяненка тросся ўсім целам. Ён парываўся штосьці сказаць, але, адкрыўшы рот, тут жа не мог вымавіць ні слова.

— А калі я... таго... — нарэшце вымавіў ён, — калі я зараз...

— Што ты, Іван Фёдаравіч? — злосна рассмяяўся Бабраўнічы. — Па-першае, гэтая штучка, — ён патрос чорнай сталлю доўгаствольнага пісталета, — дзейнічае добра і бясшумна. Бабка твая нават і носам не павядзе, а ты ўжо будзеш на тым свеце. А па другое, і ў МУС цябе па галоўцы не пагладзяць, за тое, што ў цябе жыве шпіён амерыканскай разведкі, — так, здаецца, нас называюць? Ды яшчэ і работу ты мне дапамог знайсці...

Убачыўшы, як разгубіўся бухгалтар, Бабраўнічы канчаткова змяў Семяненка прапановай, якая ўжо гучала патрабаваннем, а не просьбай.

— Будзеш дапамагаць... Я не адзін, у Налібоцкай пушчы нас многа. Мы ўсе з аднаго самалёта скінуты на парашутах. Цяпер усе абсталяваліся. Але нам патрэбен да пэўнага часу надзейны сувязны, які мог бы свабодна купляць нам прадукты. Грошы я табе дам. Астатняе цябе не датычыцца. Так, яшчэ адно... Бабраўнічы ўстаў, закурыў. — Але аб гэтым потым, не ўсё адразу.

Астатак ночы ніхто з іх не мог заснуць. Рана Семяненка слабым голасам сказаў, што ён не пойдзе на службу — захварэў.

(Працяг будзе)

# Беларуская вечарына



Пачалося ад даклада і мастацкай часткі.

Як мы ўжо паведамлялі, 28 лютага г. г. у сувязі з трэцяй гадавінай існавання Беларускага грамадска - культурнага таварыства адбылася ў Беластоку беларуская вечарына. Яна прайшла з вялікім поспехам. Зрэшты, судзіце самі. Наш фатарэпарцёр не меў цяжкасцей з падборам кадраў, яго апарат увесь час быў у руху. Рэзультат яго працы прапануем ацаніць нашым чытачам.



Без слоў.



А мой не прыйшоў...



Удзельнікі вечарыны з павагай слухалі даклад і артыстычную частку...



Такі статыстыка паказвае, што жанчын больш чым мужчын.



Такія дзяўчаты стаяць пад сценамі! — Божа, ты бачыш і не грыміш?!...



Вучыся моладзь ад бацькоў.



Рука ў руку, вочы ў вочы.



Падыйдзе ці не?..



Павага... ці першыя крокі?



Адным словам, гулялі весела!

# Сэрца камуніста

(Працяг са стар. 3)

агульнай справы дазваляю сабе ўмяшацца ў гэты расказ пра ваша жыццё са сваім аўтарскім я.

Памятаеце, у верасні мінулага года, калі мы разам хадзілі за кукурузным камбайнам, гутарылі з простымі і слаўнымі людзьмі, рукамі якіх ствараюцца багацце і прыгажосць, бясконца дымілі папяросамі, гаворачы аб жыцці, што навокал нас і ў любімых кнігах, — у адзін з тых дзён вы папрасілі:

«У Парыжы пайдзі перш за ўсё да Сцяны Камунараў, пакратай тыя камяні рукою, каб я хоць так, у тваім прывітальным поціску, ажыццявіў сваю даўнюю мару».

Парт'е адной з гасцініц на бульвары Монмартр, дзе мы жылі, кішынёўскі яўрэй, які валодае, як мне здавалася, усімі мовамі свету, вельмі аўтарытэтна запэўніў нас, як даўні старажыл, што ва ўсёй сучаснай Францыі, мы не купім паштоўкі са здымкам тое сцяны. І мы з нашым сябрам, вашым і маім, напісалі вам на простай парыжскай паштоўцы: «Каля Сцяны Камунараў мы паламжылі кветкі».

Мы былі там у сонечны кастрычніцкі дзень, калі векавыя гмахі і дрэвы Парыжа ахутвала лёгкая паэтычная смуга, якая прыйшла і туды, на Пэр-Ляшэз, у ціхі прытулак мармуру і зеляніны. Сярод раскошных помнікаў людзям, большасць якіх дарма лічыла сябе патрэбнымі чалавецтву, позірк наш спыніўся на помніку героям Супраціўлення фашызму: дзе скаваныя ланцугамі рукі і словы на п'едэстале: «Яны памерлі, каб жыла Францыя». Другі, яшчэ больш сціплы помнік славы і бяссмерця — велічна простая сцяна, перад якою схіляе галаву ўсё прагрэсіўнае чалавецтва...

Пры ўваходзе на Пэр-Ляшэз, каля брамы, нам ветліва забаранілі браць з сабою фотаапараты. Не зразумеўшы гэтай неабходнасці, я схаваў свой «ФЭД» у кішэню. Суровы і непадкупны на выгляд вартаўнік, які — у чорнай накідцы, з чорнымі вусікамі пад чорным кепі — стаяў каля Сцяны Камунараў, на дзіва нам, азірнуўся навокал і дазволіў фатаграфаваць. Калі я потым падышоў падзякаваць яму за гэта, ён, яшчэ больш нечакана, тонам просьбы сказаў адно слова: Ленін. Я зразумеў яго і працягнуў яму значок з партрэтам Ільіча-дзіцяці. Той асабліва мілы партрэт: Валодзя Ульянаў з доўгімі, як у дзяўчынкі, валасамі. Мабілізаваўшы ўсё сваё стыхійнае веданне французскай мовы, я хацеў нават растлумачыць: «Ленін — анфан... гарсон...» Ды гэта аказалася лішнім. Чорны, суровы вартаўнік паднёс партрэцік да вуснаў, пацалаваў яго і беражліва палажыў у нагрудную кішэню кіпеля... Адтуль жа ён дастаў малую кніжыцу і, разгарнуўшы яе, паказаў партыйны білет французскага камуніста...

У той дзень у душы маёй непаўторна гучэла песня — «Слухай, хлопчык, у горадзе Парыжы», якую мы, Павел Арсеньевіч, спявалі ноччу ў вашай машыне, едучы палямі роднага Наднямоння. Я ўспомніў адзін з вашых расказаў пра польскую турму: той момант, калі вы гаварылі пра першую пасылку з волі, пра значэнне святога, непераможнага слова «таварышы». Вы не маглі выказаць мне ўсё значэнне яго, а проста... заплакалі, стоячы сярод кабінета. Ёсць адно простае, празаічнае слова, якім мы ў падобных выпадках прыкрываем сваё хваляванне, і вы сказалі яго: «нервы». Чамусьці іменна ў той дзень, каля сцяны Камунараў, я канчаткова замацаваўся на думцы, як, у якім плане падаць ваша жыццё чытачу.

Гэта — глыбока паэтычнае жыццё чалавека, які, нягледзячы на ўсе пакуты, не стаміўся глядзець на свет і народную справу з маладым, нягаснучым захапленнем, з маладой натхнёнай верай у перамогу камунізма.

Цяпер, у творчым адзінокім роздуме над шляхам барацьбы і працы рэвалюцыянера з паэтычнай душою, я не толькі ішоў увесь час назіркам за вамі, — я думаў пра будучыню новых здзяйсненняў, у якую вы ўваходзіце, сёння, ужо за рамкай майго сціплага расказа.

Я ўспомніў недаступную для ворага глухамань Налібоцкай пушчы, вялікую зямлянку нашай партызанскай друкарні, дзе мы — і вопытныя журналісты, і вясковыя самавукі — пісалі сатырычныя вершы, выразалі на грушавых чарках клішэ карыкатур і молада, па-запарожску смяяліся ў твар цёмным сілам, яшчэ ўсё моцным, а ўжо асуджаным на немінуючую пагібель. І вы смяяліся з намі не менш молада — наш суровы на выгляд, светлы і нязломны камісар.

Я ўспамінаў вас сакратаром Мірскага райкома партыі — у бурныя, хвалюючыя дні станаўлення калгаснага ладу ў заходніх абласцях Беларусі. З усмешкай клапатлівага, разумнага гаспадара, з усмешкай паэта вы мне паказалі, выняўшы іх з трубачкі пісьмовага стала, свежыя цагліны — узоры першай прадукцыі новых калгасных заводаў.

Я ўспамінаў тыя празрыстыя летнія досвіткі, калі я, у нумары Любчанскай раённай гасцініцы, прачынаўся, нібы на бляск заранкі, на святло з акна вашага доміка, — каб не адстаць ад жыцця, каб ісці па родных палях услед нястомнаму гаспадару мясцін, дзе, як вы радасна кажаце, так лёгка дыхаць калгасным паветрам.

Пішучы гэтыя радкі, я думаю не толькі пра тое, што прабыло, — зноў жа побач з вамі мне хочацца ісці ў нашу светлую будучыню нялёгкім шляхам пошукаў, няўдач і перамог.

Днямі пакінуў нас назаўсёды «дзядзя Валодзя», наш незабыўны Уладзімір Зенонавіч... Жывыя будуць змагацца, пойдуць далей!..

Новы этап вашага жыцця пачаўся. Любчанскі раён — мільянер перастаў існаваць, стаў часткай узбуйненага Навагрудскага раёна. Вам даручана кіраваць жыццём другога, Карэліцкага раёна, да якога далучана наша родная Міршчына.

Там ужо многае зроблена, яшчэ больш — трэба зрабіць. На ўзгорках і ў далінах лягла ціхая зіма, якая дарэмна здаецца часам заслужанага адпачынку. Там зноў працуе ваша нястомная творчая думка, там старанна рыхтуецца новае наступленне на палі, якія ў гэтым годзе павінны закрасаваць новым, яшчэ небывалым ураджаем.

**КАНЕЦ**

